

Беларускі Еўрапейскі Форум

# Еўропа для беларускіх студэнтаў

## Еўрапейская палітыка добрасуседства і Усходняе партнёрства

## Балонскі працэс

# Еўрапейская палітыка добрасуседства і Усходняе партнёрства

Для больш разгорнутага супрацоўніцтва з суседнімі краінамі Еўрапейскі саюз у 2004 г. абвесціў Еўрапейскую палітыку добрасуседства. Акрамя фінансавай дапамогі краінам-суседзям яна прадугледжвае цэлы шэраг пераваг для грамадзянаў, напрыклад, больш танныя візы ў Еўропу, стыпендыі на навучанне ў еўрапейскіх універсітэтах і супольныя з імі адукацыйныя ды навуковыя праекты.

Усходняе партнёрства — гэта яшчэ адна праграма, якую Еўрапейскі Саюз распачаў у траўні 2009 г. Яна прызначаная для шасці ўсходнееўрапейскіх суседзяў, у тым ліку і для Беларусі. Далучэнне да Палітыкі добрасуседства і Усходняга партнёрства гэта:





Удзел у гэтых праграмах будзе спрыяць фінансаванню дадатковых месцаў у еўрапейскіх універсітэтах для беларускіх студэнтаў, а пасля іх заканчэння дазволіць ім уладкавацца на працу ў краінах Еўрапейскага саюзу.



## ДАДАТКОВЫЯ СТЫПЕНДЫІ





## УЛУЧЭННЕ Ў ЕЎРАПЕЙСКІ АДУКАЦЫЙНЫ ПРАЦЭС

Далучэнне да разнастайных адукацыйных, навуковых і азнаямляльных еўрапейскіх праграмаў беларускіх студэнтаў і школьнікаў. Больш шырокія магчымасці для атрымання фінансавання ад Еўрапейскага саюзу на адукацыйныя і навуковыя патрэбы Беларусі.







## БЯСПЛАТНЫЯ ВІЗЫ ДЛЯ СТУДЭНТАЎ

Удзел у Еўрапейскай палітыцы добрасуседства дазволіць знізіць кошт Шэнгенскіх візаў для ўсіх катэгорыяў грамадзян да 35 еўра (менавіта столькі цяпер каштуюць візы для ўкраінцаў або рускіх), а студэнты і школьнікі змогуць атрымліваць візы бясплатна



## АБАРОНА ПРАВОЎ СТУДЭНТАЎ

Еўраінтэграцыя забяспечыць абарону правоў беларускіх студэнтаў: права на бясплатную адукацыю, спыненне прымусовага размеркавання, абарону ад дыскрымінацыі і адвольнага стаўлення збоку адміністрацыі ВНУ і выкладчыкаў.






# Балонскі працэс

У 1999 г. у Еўропе была сфармаваная агульная сістэма вышэйшай адукацыі, якая атрымала назву Балонская. У яе станаўленні ўдзельнічаюць міністры адукацыі ўсіх еўрапейскіх дзяржаваў, універсітэты, студэнты і выкладчыкі з 46 краінаў, а таксама розныя міжнародныя арганізацыі. Апрача ўдасканалення адукацыйнага працэсу Балонская сістэма вызначае і стандарт якасці вышэйшай адукацыі ў Еўропе. Да таго ж яна дае моладзі шырокія магчымасці выбару месца навучання і дапамагае «акліматызавацца» ў любой еўрапейскай краіне. Далучэнне універсітэтаў Беларусі да Балонскага працэсу на практыцы азначае:





Сістэма адукацыі будзе грунтавацца на двух цыклах — бакалаўрыяце, які дае базавую вышэйшую адукацыю, і магістратуры, па сканчэнні якой прысвойваецца навуковая ступень магістра. Гэта дазволіць істотна падвысіць якасць адукацыі ў нашай краіне і рыхтаваць спецыялістаў еўрапейскага ўзроўню з добрым веданнем замежных моваў.



## ТРАНСФАРМАЦЫЯ СІСТЭМЫ АДУКАЦЫІ



Гэта значыць, што засвоеныя ў беларускіх універсітэтах праграмы будуць залічвацца і ў еўрапейскіх універсітэтах. Станецца магчымым перавод з беларускіх ВНУ ў еўрапейскія і наадварот. Для гэтага ўведзены спецыяльны дадатак да дыплому, які фіксуе пералік адзнакаў.

## НАЗАПАШВАННЕ І ТРАНСФЕР КРЭДЫТАЎ






## МАБІЛЬНАСЦЬ СТУДЭНТАЎ

Да прыкладу, праграма «Erasmus» дазваляе правучыцца на працягу года ў адным з еўрапейскіх універсітэтаў з залічэннем усіх курсаў у сваім універсітэце ў Беларусі.





## САМАКІРАВАННЕ І АКАДЭМІЧНЫЯ СВАБОДЫ

Студэнты змогуць уплываць на жыццё свайго універсітэта праз удзел у органах студэнцкага самакіравання, а таксама на распрацоўку навучальных праграмаў.

## ЕЎРАПЕЙСКІ ДЫПЛОМ



Беларускія універсітэцкія дыпломы (і бакалаўрскія, і магістарскія) будуць прызнавацца ў іншых еўрапейскіх краінах і наадварот.



« Цывілізацыйна, гістарычна і культурна Беларусь — неад'емная частка Еўропы.

Незалежнасць, дэмакратыя, росквіт і далейшае развіццё нашай Бацькаўшчыны наўпрост залежаць ад паспяховасці нашых намаганняў па інтэграцыі ў еўрапейскую эканамічную і палітычную прастору. Гэта гістарычны выклік для нашай краіны, уладаў і грамадзянскай супольнасці.

Я веру ў еўрапейскі шлях і будучыню Беларусі. »

Аляксандр Мілінкевіч
*старшыня Руху «За Свабоду»*

**Рух «За Свабоду»**
**www.milinkevich.org**
**п/с 148, Мінск, 220005**

**Аргкамітэт Беларускага Еўрапейскага Форуму**
**www.euraforum.info**

**Прадстаўніцтва Еўрапейскай Камісіі ў Беларусі**
**www.delblr.ec.europa.eu**



Беларускі Еўрапейскі Форум

Наклад 2000 ас. Замова №215.
Надрукавана на абсталяванні выдавецтва «Лорэнс-прэс», г. Смаленск